Цана асобнага нумару 20 гр.

Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.



# П[illegible] ПРАЦЫ

Выходзіць два разы у тыдзень.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6 (Wileńska 12. m. 6) Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэсу 30 гр. | Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукаван. залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош, сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |

№ 3 Вільня, Серада 14-га сьнежня 1927 г. Год I

Па загаду камісара ўраду на м. Вільню паліцыя сканфіскавала № 2 Права Працы за наступныя стацьці 1) перадавіца: „У ваблічу выбараў", 2) „Сэсія Рады Лігі Нацыяў".

Падаючы гэтую вестку да ведама нашых чытачоў, мя ня можам прайсьці моўчкі міма гэтае канфіскаты. Мы лічым яе абсалютна беспадстаўнай.

Перадусім ніхто ня можа забараняць нам выказаць наш пагляд на істоту выбараў.

Другое—наш пагляд, што соймавую трыбуну трэба выкарыстаць для ўсьведамленьня і мабілізацыі беларускіх сялянска-работніцкіх мас у імя супольнай барацьбы за іх і свае сацыяльнае і нацыянальнае вызваленьне, ня мае ў сабе нічога праступнага, бо ні аб якіх гвалтоўных спосабах вызваленьня мы ў нашай стацьці не гаварылі.

Гэтак сама няма нічога праступнага, калі зьвяртаем увагу працоўных мас на штодзенную арганізаваную барацьбу за свае інтарэсы і прызываем да далейшага разгортываньня яе, асьцерагаем перад аслабленьнем яе, як вынік шкодных ілюзыяў, які распаўсюджываецца паляўнічымі за мандатамі бел. згоднікамі, накшталт Ярэмічаў і Рагулі, кс. Станкевічаў і інш., аб выніках парляманцкай барацьбы.

Нічога праступнага ня бачым мы ў тым, што мэтай выбарнай кампаніі лічым пашырэньне палітычнай сьвядомасьці бел. сялянска-работніцкіх мас, а не пагоню за мандатамі і блёк у імя гэтых мандатаў з буржуазіяй нац. меншасьцяў, што да клясавага ўсьведамленьня працоўных мас бязумоўна дадатня ня прычыніцца. Нічога праступнага ня бачым мы ў пашырэньні думкі аб міжнароднай салідарнасьці працоўных у часе выбарнай кампаніі, як процівагу блёку з буржуазіяй нац. меншасьцяў.

Гэтую кафіскату цяжка інакш зразумець, як імкненьне зрабіць нам немагчымай нашу барацьбу з беларускай угодай, як імкненьне зрабіць нашай часопісі немагчымым удзел у выбарнай кампаніі, і каб ачысьціць поле выбарнай кампаніі для ўгадоўцаў розных адценяў. Што датычыць да другой стацьці, дык ня прыложым розуму, за што яе сканфіскавана, бо зьяўляецца простай сводкай, вестак паданых у польскай прэсе.

Мы можам толькі горача пратэставаць процi гэтае канфіскацыі, спадзяючыся, што суд яе мусіць ухіліць з прычыны адсутнасьці праўных падстаў для яе. **Рэдакцыя.**

## Маніфэст здраднікаў беларускіх працоўных масаў.

У вядомай сваей прадажніцкай і правакацыйнай працай на шкоду беларускіх працоўных масаў „Сялянскай Ніве" за 10 сьнежня г. г. зьявіўся голасна-крычучы маніфэст-адозва пад загалоўкам: Грамадзяне-беларусы, сяляне і работнікі, падпісаны „Беларускім Цэнтральным Выбарным Камітэтам", камітэтам, злучаючым у сабе тры беларускія партыі, (Ярэмічаўскі Сель-саюз і дзьве хрышчоныя дымакраты), якія ад часу свайго паўстаньня ўсьцяж разьбівалі і разьбіваюць еднасьць беларускіх працоўных масаў ў іх крывавай барацьбе за сваё жыцьцё, за сваё права на істнаваньне.

У гэтым маніфэсьце поўным бессаромлівай маны, ашуканства, дэмагогіі і разам усялякіх прыгожых абяцанак—спэкулянты на беларускім вызваленчым руху заклікаюць беларускія працоўныя масы „напружыць усе сілы, каб такія паслы-прадстаўнікі (гэта-ж вядома — яны: Ярэміч, Рагуля і К-о — *Рэд.*) прайшлі ў Сойм і Сэнат у найбольшай колькасьці". Спадзяючыся, што працоўныя масы нічога ня ведаюць аб іх здрадніцкай рабоце ў працягу апошніх гадоў, яны хітра злучаюць сябе саміх з імі-ж самымі закіданымі ў свайм часе гразёю і праданымі барацьбітамі за правы беларускіх працоўных гушчаў, гаворачы, што яны "не шкадавалі ні сваіх сілаў, ні сродкаў, ні навет *свайго жыцьця* (падчыркнута намі.—*Рэд.*) у гэтай барацьбе".

У маніфэсьце дэкляруецца „шчыра змагацца за нацыянальныя і сацыяльныя правы Беларускага Народу, — за правы нашага працоўнага сялянства, работніцтва, за зямлю беларускаму сялянству бяз выкупу" і г. д. і г. д.

Гэта так гавораць яны беларускім працоўным гушчам, якіх самі ня толькі прадавалі, а і сьвядома імкнуцца прадаваць далей, кажучы гэта зусім адкрыта і без усялякай лішняй царамоніі. На гэтай-жа самай старонцы, дзе зьмешчаны маніфэст з такімі гучнымі славамі — у перадавіцы „Беларускае Аб'яднаньне" — праца радыкальнай беларускай прэсы, якая стала канфіскуецца за запраўдную абарону беларускіх працоўных масаў — аб'яўляецца... „дэмагогіяй і баламуцтвам працоўных масаў". Гаворачы ў маніфэсьце, што ўсе польскія партыі, не выключаючы навет і польскай лявіцы (але, слухайце—каго яны сюды залічаюць: ППС, ды Вызваленьне, гэтых агентаў польскага капіталізму і правакатараў сярод польскіх працоўных мас) ...варожа адносіліся да ўсялякіх праяваў беларускага руху". Выстаўляючы сябе як адзіных і найлепшых абаронцаў беларускіх працоўных масаў—гэтая шайка палітычных спэкулянтаў ні слова не сказала аб запраўдных ворагах ня толькі беларускіх, а ўсіх працоўных масаў — гэта аб буржуазіі ўсіх нацыянальнасьцяў, аб іх арганізаванай зброі, іх *супольнай барацьбе* процi ўсіх і ў першую чаргу проці сваіх па нацыянальнасьці працоўных гушчаў... Бо-ж ня дзіва! Яны самі йдуць у саюзе з гэтай-жа самай буржуазіяй усіх нацыянальнасьцяў, каб разам з ёю цісьнуць працоўныя масы. Выстаўляючы ўсе польскія партыі варожай беларускім масам сілай — яны замоўчваюць, што самі йдуць сьвядома ў згодзе ня толькі з буржуазіяй г. зв. нацыянальных меншасьцяў, з якімі ўвайшлі ў цесны блёк, а і таксама з *польскай* і то навет найболей арганізаванай для барацьбы з працоўнымі, бо маючай выпадкова цяпер уладу ў руках — г. ё. з санацыйнай буржуазіяй. А што гэта так, сьведчаць рэзалюцыі нямецкага буржуазнага Саюзу на зьезьдзе ў Лодзі, у якой выразна сказана, што *„нямецкая люднасьць (чытай — буржуазія—Рэд.) гатова і надалей паддзержваць усялякія пачынаньні Ураду, маючыя на мэце аздараўленьне гаспадарчага і палітычнага жыцьця ў гасрадарстве"*. А блёкам з нямецкай буржуазіяй гардзяцца нашы прадажнікі, закрываючы ім нібы сваю барацьбу з польскай буржуазіяй. Не гаворым ужо аб жыдоўскай буржуазіі, з якою таксама зблёкаваліся нашыя хціўцы на мандаты; буржуазіі, якая ў крытычны мамэнт у папярэднім Сойме здрадзіла ранейшых сваіх саюзьнікаў, пайшоўшы дэманстрацыйна на згоду з тагачасным урадам. Свой саюз з усею буржуазіяй у Польшчы для душэньня ўсіх працоўных масаў бяз розьніцы нацыянальнасьці нашы няпрошаныя апякуны заціраюць наіўнымі довадамі „тэхнічнага парадку" — кажучы, што бяз блёку „ня будзе прадстаўнікоў ад нацыянальных меншасьцяў у Сойме і Сэнаце". (Перадавіца — „Чаму мы блёкуемся" — „Сялянская Ніва", № 89).

О, разумныя Ярэмічы і К-о! Вы і самі не падазраваеце, што Вы адкрылі тут усе свае карты. Адкрылі, што адны без міжнароднага капіталу. Вы ня пройдзеце ў Сойм, а можаце прайсьці толькі дзякуючы саюзу з імі і з іхнімі саюзьнікамі —- польскай санацыйнай буржуазіяй. Вось вы на каго спадзяецеся ў сваім жаданьні чым у „у найбольшай колькасьці" прайсьці ў Сойм.

Дык ясна! Вашы прадвыбарчыя вопраткі занадта белымі ніткамі шытыя. Вы хацелі закрыць свой саюз з польскай урадовай буржуазіяй, не падаючы ні слова аб імкненьнях сваіх саюзьнікаў і зусім бязумоўна сьвядома замаўчаўшы ў сваім маніфэсьце ня толькі аб сваім саюзе, а навет аб сваім жаданьні барацьбе з буржуазіяй, зарганізаванай цяпер у ўрадавую сілу. І вы яшчэ кажаце аб сваей барацьбе за „сацыяльнае вызваленьне"? Далоў маску, прадажнікі! Вы не вызваляць зьбіраецеся, жадаючы прайсьці ў парлямант „у найбольшай колькасьці" — вы йдзеце сьведама душыць беларускія працоўныя масы — йдзяцё гэта рабіць разам з вашымі саюзьнікамі. Ваш маніфэст — заслона перад вачамі беларускіх працоўных, каб яны ня бачылі вашай бруднай, юдавай працы!

Беларускія працоўныя масы ў адказ на яўныя ашуканствы в. п. Ярэмічаў, Рагуляў, Станкевічаў і Багдановічаў, у адказ на іхні саюз з міжнароднай буржуазіяй для душэньня працоўных масаў усіх нацыянальнасьцяў у Польшчы — павінны выступіць таксама саюзам, таксама адзіным фронтам, фронтам працоўных усіх нацыянальнасьцяў Польшчы процi фронту буржуазіі. Гэты агульны фронт працоўных патрэбен ня толькі на час выбараў, ня толькі для правядзеньня паслоў „у найвялікшай колькасьці„—гэта ў даны мамэнт яшчэ не вырашае нашага лёсу — а таксама — што найважней — для сталай штодзённай барацьбы за свае правы і інтарэсы, за сваё права на жыцьцё, за сваё аканчальнае вызваленьне!

## Чарговы—„крок наперад і два назад"—у справе разбраеньня.

(Праца „падрыхтаваўчай камісіі" ў Жэнэве).

Цікаўнае зьявішча ў нашы „пацыфістычныя" („міратворчыя") часы, у якія, як сьцьвярдзіў нядаўна Лёйд-Джордж „пад ружжом стаіць 10 мільёнаў гатовых да паходу жаўнэроў", ці—больш, як удвая, чым перад вайной,—прадстаўляе кожная чарговая канфэрэнцыя ці камісія — ў справе „разбраеньня"... Усе сябры кажуць розныя прыгожыя словы аб „вечным міры", крычаць аб цяжарах збраеньняў, аб пагражаючай з самага награмаджэньня амуніцыі небясьпецы вайны... Але ўсе шляхотныя настроі ды словы канчаюцца адным; „пакуль што разбраеньне—нерэальная ды неактуальная рэч—трэба ўтрымаць збраеньні"... І гэта-ж ясна: бо-ж перадусім вялікшыя дзяржавы зусім ня хочуць пазбаўляцца тэй сваей аружнай сілы, якая дае ім магчымасьць панаваць у сьвеце дый эксплёатаваць слабейшыя народы, а, апроч таго,—амаль ня ўсе ўрады на сьвеце, асабліва ў Эўропе пабудаваны ці, як кажуць,—„фашызаваны" цяпер так, што—толькі шляхам тасаваньня ваеннага ды паліцэйскага гвалту ўтрымліваюць уладу над сваімі паняволенымі ізноў, як да вайны, а навет—горш,—народамі...

Чаровая спроба „разбраеньня", зробленая ў Жэнэве на сэсіі „падрыхтаваўчай камісіі дзеля склікання канфэрэнцыі ў справе разбраеньня"—найлепшы прыклад гэтай агіднай няшчырасьці ўраду імпэрыялістычных дзяржаваў ува ўказанай справе, — тыповы „крок наперад і два назад"...

Характэрна, што тыя самыя дзяржавы, якія ўсьцяж лаялі Радавы Саюз за яе „збраеньні" ды радавы ўрад за яго сталыя адмовы прымаць учасьце ў шляхотнай працы дзяржаў Заходу на полі разбраеньня амаль ня ўвесь час на сэсіі Камісіі ахвяравалі на тое, каб зьбіваць ды кампрамітаваць прапазіцыю радавай дэлегацыі аб поўным разбраеньні, як на моры, так сама і на сушы. Падамо ў вялікім скароце агляд працы гэтай „падрыхт. камісіі".

Старшынёй камісіі быў выбраны грэцкі дэлегат, ведамы праўнік і палітык Політыс. Пасьля старшыня прышлай Канфэрэнцыі, якую мела падрыхтаваць гэтая Камісіі, дэлегат Галяндыі Лоўдон, высьветліў, што камісія мае мэтай—„падрыхтаваць магчымасьці паступовага абмяжаваньня збраеньняў—спосабам стварэньня новых гарантыяў, якія-б зрабілі магчымым разьвязаньне міжнародавых канфліктаў—шляхом палюбоўных судоў".

У завязаўшайся агульнай дыскусіі адным з першых узяў голас старшыня радавай дэлегацыі Літвінаў. У сваей прамове ён высьветліў, што сучасны імпэрыялізаваны і фашызаваны капіталізм — вось найвялікшая небясьпека ўсялякай вайны ды жарало збраеньняў. Ліга Нацыяў не зрабіла дагэтуль амаль што нічога ў галіне разбраеньня,—бо сама зьяўляецца пакорнаю прыладаю ў руках гэтага імпэрыялізму найвялікшых капіталістычных дзяржаваў. Пасьля крытыкі сучаснага сусьветнага ладу Літвінаў выложыў пазытыўную праграму—прапазіцыю радавай дэлегацыі,—дамагаючыся— скасаваньня ўсіх аружных сілаў на сьвеце—сухапутных, марскіх і паветраных, зьніштажэньня ваенных матэрыялаў і амуніцыі, спыненьня ваеннага ўзгадаваньня, збурэньня ўсіх крэпасьцяў, а таксама — скасаваньня ваенных бюджэтаў усіх дзяржаваў. Радавы дэлегат дадаў, што дэлегацыя ССРР мае ўсе паўнамоцтвы—заразжа прыступіць да перагавораў у справе гэтай прапазіцыі, і тады—на падставе апрацаванага сусьветнага трактату разбраеньня—ўся праца па зьніштажэньню ўсяго, што служыць для вайны, можа быць дакананa ў працягу аднаго году... Калі-ж дакананьне гэтай аграмаднай працы аказалася-б немагчымым у працягу аднаго году, тады гэтую працу можна разлажыць на 4 гады.

У канцы прамовы Літвінаў запрапанаваў рэзалюцыю, якой Камісія заклікаецца — зараз-жа распачаць працу дзеля падробязнага распрацаваньня пляну сусьветнага разбраеньня—на падставе прапазіцыі радавай дэлегацыі, а таксама—склікаць не пазьней, як у сакавіку 1928 г.—міжнароднай канфэрэнцыі ў справе разбраеньня. Скончыўшы прамову, радавы дэлегат натуральна патрэбаваў, каб у справе яго канкрэтных прапазіцыяў была адчынена дыскусыя. Пасьля некалькіх спрэчак і стараньня старшыні Лоўдона — адлажыць дыскусію, Літвінаву ўдалося настаяць на сваім. Аднак-жа—ніхто—на прапазіцыю старшыні — не хацеў прамаўляць першым, што выклікала сьмех у салі. Тады выступіў французскі дэлегат, ведамы „сацыяліст-мільянер „Поль Бонкур, які матываваў свае выступленьне „ветлівасьцю ды гасьціннасьцю перад радавай дэлегацыяй, якая ў першы раз зьяўляецца ў Жэнэве"... Дэлегат французскага сацыял-імпэрыялізму заявіў, што ўсе прапазіцыі ды пляны Літвінава—„залішне ўжо простыя". Бо-ж навет зрэалізаваньне ўсіх пляна ў Літвінава не зьмяніла б сучаснага стану небясьпекі — без суадказных новых гарантыяў бясьпечнасьці". Французскі дэлегат далей пачаў вельмі лоўка выкручвацца ад запраўды-ж — проста і рашуча пастаўленых прапазіцыяў Літвінава, забойчых для ўсіх вялікіх дзяржаваў.

Тады выступіў з паважнай прамовай нямецкі дэлегат гр. Бэрнсдорф, які заявіў, што нямецкі ўрад гатовы працаваць разам з іншымі дзяржавамі—ў духу запраўднага разбраеньня. Дык ён дзівіцца, чаму гэта прапазіцыі радавай дэлегацыі. якія, можа, запраўды-ж залішне рэзка і рашуча, але ў кожным разе широка і шчыра ахопліваюць распачатую працу, выклікалі такое „халодные спатканьне" ў лоне камісіі, якой канчальная задача, як здаецца—поўнае разбраеньне спарадзілася ў лоне Лігі Нацыяў, але — ці-ж сам закладчык гэтай Лігі, прэзыдэнт Вільсон, ня кіраваўся тымі-ж самымі плянамі і імкненьнямі, якія толькі што выложыў старшыня радавай дэлегацыі. У канцы прамовы нямецкі дэлегат патрэбаваў, каб зараз жа быў назначаны час для дыскусіі ў справе чытанага ўжо першы раз праекту ўмовы ў справе разбраеньня, у часе якой павінна быць праведзена дыскусія ўва ўсіх пытаньнях, датычучых гэтай справы, а таксама і ў справе прапазіцыяў радавай дэлегацыі.

Пасьля доўгіх спрэчак прапазіцыя нямецк. дэлегата прынята камісіяй, гэта-ж значыць, што радавыя прапазіцыі адкладаюцца разглядам—аж да лютага, калі мае адбыцца другое паседжаньне камісіі, на якім будзе другое чытаньне праекту, апрацаванага Лігай. Пахавалі прынамсі да лютага.

Пасьля таго выбіраецца камісія для апрацаваньня праектаў палюбоўных судоў і гарантыяў бясьпечнасьці, якія павінны былі-б замяніць збраеньні. У склад камісіі ўвайшлі прадстаўнікі ўсіх дзяржаваў—сяброў Лігі. Прадстаўнік Радаў увайшоў, як наглядчык. Прадстаўнік-жа Амэрыкі ўхіліўся навет ад гэтай ролі...

Гэткім чынам — з камісіі ў справе падрыхтаваньня разбраеньня спарадзілася, замяніўшы апошнюю, кам!сія ў справе арбітражу (палюбоўных судоў) і загарантаваньню бясьпечнасьці. Ясна чаму. Бо-ж разбраеньне — нявыгодна для вялікіх дзяржаваў, але гэтыя „суды“ ды „гарантаваньне бясьпечнасьці“ фактычна толькі ўзмацняе панаваньне гэтых дзяржаваў над усімі іншымі... Бо-ж якраз гэтыя „вялікія“ будуць і „судзьдзямі“ над малымі і „гарантамі“ іх „бясьпечнасьці“—да новай вайны, якую няўхільна мае выклікаць канкурэнцыя вялікіх — з-за панаваньня над малымі...

Далейшы падзел „камісіі“ на „падкамісіі“ меў на мэце ўжо толькі падзел працы над урэгуляваньнем таго стану збраеньняў ды магчымай вайны, якія асталіся залегалізаванымі цалком, як дагэтуль...

Так скончылася першае выступленьне радавай дэлегацыі ў „супольнай працы“ з камісіяй, паўстаўшай у лоне Лігі Нацыяў. Набачым, што будзе далей — у сакавіку.

### Водгукі радавых прапазіцыяў у буржуазнай прэсе сьвету.

Дзіва, што ўся англійская буржуазная прэса спаткала радавыя прапазіцыі з гнеўнай „пагардай“, як — „цынічныя ды не паважныя“...

У парляманьце на запытаньні — прэм. Балдвін заявіў, што нічога ня скажа аб гэтых прапазіцыях, пакуль не атрымае афіцыяльна прапазіцыяў ад радавага ўраду. На трэбаваньне з боку Работніцкай Партыі—адчыніць у справе радавых прапазіцыяў дыскусію ў парляманьце — перад тым, як урад іх адкіне, прэм'ер дадаў, што—нічога больш ня мае сказаць...

У францускіх прэсах і палітычных колах — „прапазіцыі Літвінава“ — ну ясна-ж—выклікалі — „найгоршае ўражаньне“...

### Далейшая праца „падрыхтаваўчай Камісіі“ і яе падкамісіі.

На апошнім паседжаньні Камісіі пастаноўлена—другую сэсію „падкамісіі для справаў арбітражу і бясьпечнасьці“ склікаць на 28 лютага, а усю камісію—для разгляду праэкту разбраеньня і ў тым—радавых прапазіцыяў—пасьля таго йшчэ — на 15 сакавіка. Дамаганьні радавай і нямецкай дэлегацыяў—не вязаць працы камісіі, але прысьпяшыць яе, склікаўшы камісіію на 10 студня—былі адкінуты.

Наагул на сэсіі Камісіі—Англія, Францыя і Італія — з усімі сваім „васаламі“ — трымаліся ў поўнай згодзе—проці Нямеччыны і Радаў.

Спробы нямецкай дэлегацыі падняць справу перагляду — Трактатаў, страціўшых актуальнасьць ды пагражаючых міру — на падставе арт. 19 арт. Статуту Лігі, спаткаліся з поўнай глухатой камісіі...

# Палітычная хроніка.

## У Польшчы.

### Выбарчы календар, абвешчаны ў „Dzienniku Ustaw Rzeczypospolitej Nr 107“ 5 сьнежня 1927 г.

**13 сьнежня.** 8 найбольшых польскіх клюбаў прадстаўляе Генаральнаму Выбарчаму камісару 8 сяброў дзяржаўнае выбарчае камісіі і гэтулькі-ж заступнікаў.

**15 сьнежня.** Генаральны Выбарчы Камісар на прапанову старшыні адпаведнага апэляцыйнага суду назначае павадыроў акружных выбарчых камісіяў (Ваявода, Камісар Ураду) назначае па 1 сябру акружных выб. камісіяў.

Адміністрацыйныя ўлады I інстанцыі абвяшчаюць ува ўсіх воласьцях падзел іх на выбарчыя абводы, з вызначэньнем выбарчых памешканьняў і кватэры абвадовае выбарчае камісіі. Аб павышшым адначасна гэтая самая ўлада паведамляе павадыра (старшыню) Акружнае Выбарчае Камісіі і Галоўны Статыстычны Урад. Генаральны Выбарчы Камісар абвяшчае ў „Monitorze Polskim“ склад асобаў і ўрадовае памешканьне дзяржаўнае выбарчае камісіі, такжа мейсца, час, спосаб і апошні тэрмін падаваньня дзяржаўных сьпіскаў кандыдатаў.

**17 сьнежня.** Генаральны Выбарчы Камісар абвяшчае ў ваяводзкім „Dzienniku Urzędowym“ назначэньне павадыроў (старшынь) акружных выбарчых камісіяў, іх заступнікаў (Ваявода, Камісар Ураду) абвяшчае назачэньне сябраў акружных выбарчых камісіяў, праз вызначэньне.

Меставыя рады, сабраньні адносных воласьцей, выбіраюць сябраў акружной выбарчай камісіі.

**19 сьнежня.** Павадыр Акружной Выбарчай Камісіі абвяшчае асабісты склад Камісіі ў ваяводзкім „Dzienniku Urzędowym“. Акружная Выбарчая Камісія абвяшчае ўва ўсіх валасьцёх дзень выбараў, гадзіны галасаваньня, лік паслоў, каторыя маюць быць выбранымі з акругі і час, спосаб і апошні тэрмін падаваньня кандыдатаў і дэкляарцыяў аб прылучэньні акружнага сьпіску да дзяржаўнага сьпіску, а так-жа аб асабістым складзе і ўрадавым памешканьні.

**20 сьнежня.** Валасная Рада і сабраньне солтысаў, ці Камісар Ураду, ці павятовы аддзел назначае ці вызначае 3 сяброў абвадовай выбарчай камісіі і гэтулькі ж іх заступнікаў.

**25 сьнежня.** Начальнік воласьцяў (прэзыдэнты, бурмістры, войты, кіраўнікі даменіальных абшараў) робяць для кожнае меншасьці сьпісак выбаршчыкаў у 3 экзэмплярах.

Павадыр Акружной Выбарчай Камісіі паведамляе начальніка воласьці і падае аб гэтым да публічнага ведама.

**27 сьнежня.** Начальнік воласьці перасылае 3 экзэмпляры сьпіску выбаршчыкаў павадыру Абвадовай Выбарчай Камісіі.

**1 студзеня.** Абвадовая Выбарчая Камісія перасылае 1 экзэмпляр сьпіску выбаршчыкаў Акружной Выбарчай Камісіі.

**2 студзеня.** Абвадовая Выбарчая Камісія выстаўляе сьпіскі выбаршчыкаў для публічнага агляду.

**15 студзеня.** Апошні дзень выстаўленьня сьпіскаў выбаршчыкаў для перагляду.

**16 студзеня.** Апошні тэрмін падаваньня рэклямацыяў у Абвадовую Выбарчую Камісію проціў няўпісаньня каго-колечы ў сьпісак, ці якое небудзь незаконнае запісі.

**22 студзеня.** Апошні тэрмін падаваньня спраціву рэклямацыяў проціў вычырківаньня са сьпіскаў.

**24 студзеня.** Падаваньне дзяржаўных сьпіскаў кандыдатаў.

**27 студзеня.** Абвадовыя Выбарчыя Камісіі перасылаюць Акружной Выбарчай Камісіі 2 акзэмпляры сьпіскаў выбаршчыкаў.

**30 студзеня.** Абвадовыя Акружныя Камісіі прымаюць спрацівы проціў вычырківаньня са сьпіску выбаршчыкаў і дабавачна перасылаюць іх у Акружную Выбар. Камісію.

**1 лютага.** Кандыдаты з дзяржаўных сьпіскаў падаюць Павадыру Дзяржаўнай Выбарчай Камісіі дэкляарцыі аб сваей згодзе на пасольскі мандат.

**3 лютага.** Генаральная Выбарчая Камісія абвяшчае ў „Monitorze Polskim“ дзяржаўныя сьпіскі кандыдатаў і падаваньне акружных сьпіскаў кандыдатаў.

**5 лютага.** Акружныя Выбарчыя Камісіі перасылаюць Абвадовым Выбарчым Камісіям 2 экзэмпляры аканчальна зацьверджаных сьпіскаў выбаршчыкаў, адначасна 3 экзэмпляры перасылаюць да начальнікаў воласьцяў.

**9 лютага.** Павадыры Абвадовых Выбарчых Камісіяў выстаўляюць аканчальна зацьверджаны сьпісак выбаршчыкаў для публічнага агляду.

**11 лютага.** Кандыдаты з акружных сьпіскаў падаюць павадыром Акружных Выбарчых Камісіяў дэкляарцыю аб сваей згодзе кандыдаваньня. Паўнамоцнікі акружных сьпіскаў кандыдатаў падаюць Павадыры Акружной Выбарчай Камісіі дэкляарцыю аб прылучэньні акружнога сьпіску да сьпіску дзяржаўнага.

**13 лютага.** Апошні дзень выстаўляньня сьпіскаў для публічнага агляду аканчальна зацьверджанага.

**21 лютага.** Акружныя Выбарчыя Камісіі дастаўляюць Абвадовым Выбарчым Камісіям афішы са сьпіскамі кандыдатаў у мэтах публікацыі.

### 4 сакавіка. Галасаваньне ў Сойм.

**7 сакавіка.** Паседжаньне Акружной Выбарчай Камісіі для ўстанаўленьня вынікаў выбару ў Сойм.

### 11 сакавіка. Галасаваньне ў Сэнат.

**14 сакавіка.** Паседжаньне Акружной Выбарчай Камісіі для ўстанаўленьня вынікаў выбару ў Сэнат.

### Далейшы развал Пяста.

5 павятовых аргаізацыяў Пяста ў Львоўскім ваяводзтве перайшло на бок сэн. Буйкі, а ўласьне Жулкеўскі, Рава Руская, Сокаль, Мосьціцка, Гарадок Ягелёнскі. У бліжэйшых днях да гэтага маюць далучыцца яшчэ некалькі паветаў, так што ўплыў Вітаса ў Усходняй Галіцыі зближаецца да поўнай ліквідацыі.

### Кандыдатура Тромпчынскага.

Прэса паведамляе, што на першае мейсца ў Пазнаньшчыне па эндэцкаму сьпіску высоўваецца кандыдатура Трэмпчынскага — былога старшыні сэнату.

### Польскія купцы і надыходзячыя выбары.

Зьезд Галоўнай Рады Саюзаў Польскіх Купцоў прыняў наступную вельмі характэрную рэзалюцыю, якую зьмяшчаем у скарочаньні. Рэзалюцыя сцьвярджае фінансавыя дасягненьні ўраду і дамагаецца зьмены канстытуцыі ў кірунку павялічэньня праў прэзыдэнта і ўлады ўраду, зраўнаньня праў Сойму і Сэнату і запэўненьня пераважнага і беспасрэднага ўдзелу прафэсыянальных груп (чытай дэлегатаў купцоў, фабрыкантаў, абшарнікаў і інш. капіталістаў). Галоўная Рада выказывае перакананьне, што працы ў вышэй азначаным кірунку павінны быць галоўным, калі ня выключным, заданьнем будучага Сойму.

Гэтак дзеецца з канстытуцыяй і дэмакратыяй, калі паны капіталісты чуюць сябе ня пэўна ў сядле.

### Цэнтральны Каміт. ППС — у справе польска-літоўскага канфлікту.

Ц. К. ППС — у зьвязку з апошнімі падзеямі ў справе польска літоўскага канфлікту—прыняў рэзалюцыю, у якой, выражаючы сымпатыю да барацьбы літоўскай дэмакратыі проці ўраду Вальдэмараса, аднак-жа — пакідае гэтую барацьбу вылучна сілам літоўскай дэмакратыі, адкідаючы катэгарычна ўсялякую магчымасьць вырашэньня гэтага спору Польшчы з Літвой аружным шляхам, а таксама спробы якога-небудзь умяшацельства Польшчы ў-ва ўнутраныя справы Літвы. ППС востра кляйміць усялякую ваенную агітацыю ў Польшчы з боку „безадказных групкаў — з Крэсавымі абшарнікамі на чале“, якія гатовы заўсёды кінуць у небясьпеку ўвесь край —дзеля сваіх клясавых інтарэсаў—здабыцьця назад сваіх маёнткаў, што асталіся на той бок граніцы...

## Заграніцай.

### XV кангрэс камуністычнай партыі ў Маскве.

У Маскве распачаўся XV кангрэс камуністычнай партыі ССРР. У кангрэсе прымае ўчасьце — 887 сяброў з рашаючым голасам 725. Кангрэс адчынены Рыкавым; пасьля яго прывітальнай прамовы выбраны прэзыдыум—з 52 асобаў.—У склад прэзыдыуму ўвайшлі найвыдатнейшыя павадыры ўрадавага напрамку і аніводнага — з апазіцыі. Для разгляду справы апазіцыі выбрана камісія ў складзе 65 асобаў. У склад гэтай камісіі таксама не ўвайшлі прадстаўнікі апазіцыі (так даносяць тутэйшыя газэты), проці чаго апазіцыя на кангрэсе заявіла пратэст.

Другі дзень кангрэсу быў ахвяраваны дакладу аб палітычным палажэньні ССРР, які ад імя Ц. К. зрабіў Сталін. Даклад цягнуўся 7 гадзін. У першай частцы Сталін разглядзеў замежную палітыку ССРР, у другой—унутран. палітычную працу ўраду, у трэцяй—унутранае жыцьцё партыі. У канцы Сталін патрэбаваў ад апазіцыі — поўнай ліквідацыі яе ідэолёгічнай і арганізацыйнай.

### Чаму Францыя пасьпяшыла з падпісаньнем трактату з Югаславіяй.

Цікаўныя рэвэляцыі робіць француская прэса—у справе трактату „ваеннай прыязьні“ з Югаславіяй, скіраванага проці засільля Італіі на Балканах. Аказываецца, як піша крайне-левая газэта „Чалавечнасьць“, што францускі ўрад, які даўгі час зусім не сьпяшыў падпісываць трактат з Югаславіяй, спадзяючыся (наіўна...), быццам да яго далучыць свой падпіс і Італія, гэткай „дэманстрацыяй“ цягнуў бы справу і надалей,—не жадаючы гневаць Італіі, аднак жа—і не баючыся ўплыву яе аднэй на Балканах... Прыняў-жа рашучую пастанову францускі ўрад толькі тады, калі пабачыў, што да італьянскай акцыі на Балканах — скіраванай проці францускага ўплыву—далучылася і Англія...

Калі-ж у Белград прыехаў дырэктар англійскага банку п. Клярк, дый распачаў перагаворы з югаслаўскім урадам у справе англійскай пазыкі, тады Францыя добра зразумела ўсю небясьпеку для сваіх уплываў у Югаславіі...—„Вялікшы прыплыў англійскіх капіталаў у край, піша газэта, лёгка-б здолеў перацягнуць Югаславію на бок англа-італьянскага палітычнага лягеру“...

Тады Францыя перастала адразу хістацца і—адкрыла карты сваей палітыкі на Балканах...

Гэтыя рэвэляцыі яшчэ раз сцьвярджаюць англа-італьянскую хэўру на Балканах, дзе Італія зьяўляецца — яўным падпалячам, а „пацыфічная“ Англія—таксама...



*М. Т—к.*

# Я зразумела, адчула...

I.

Ноч. Паветра ціхае, цёплае; неба ўзіраецца тысячай зор.

Цішыня... Толькі час-ад-часу па вёсках пранясецца голас сабачага брэху, які хутка сьціхае, як-бы баючыся зрушыць гэтую прыемную, прыгожую начную ціш. Дрэвы стаяць моўчкі, быццам адпачываюць.

Па дарозе да вёскі Лявонавіч йшла пара чалавек: мужчына і жанчына. Лёгкая паходка, звонкія галасы так і казалі, што гэта моладзь. І не памыліліся-б: Зоська—маладая дзяўчына, вярталася дамоў; яе праводзіў Міхась—хлапец з суседняга мястэчка.

— Ведаеш, Зоська, а сягоняшняя рэпэтыцыя куды лепш ішла, як прошлая!

— Але. Зусім добра. Я думала, што з нас такі нічога ня будзе, але сёньня паказала, што можна працаваць!

— Нічога! Пачатак заўсёды цяжкі.

— Але і сьмешная роля Пранціся! Ха-ха-ха! Завядзі, кажа, яшчэ сваю шарманку! Ха-ха-ха!

— Ага.

— Усё-ж, Якім мне лепш падабаецца!

— Ведама! Каму ён не спадабаецца?! Гэта, брат, чалавек, які знайшоў дарогу, які за нешта змагаецца!

— Ты ізноў—змагаецца! Надаеў ты мне з сваім змаганьнем! Кожны дзень трубіш.

— Але-ж, такі мы будзем з табою змагацца.

— Ну, ведама! Я дык першая за табою ў рады!

— Ці праўда? Дай за гэта руку! Шчыра дзякую табе. — І ён так моцна сьціснуў, што Зося ажно скрывіла губкі і пачырванела.

— Досыць табе ўжо цісвуць!

— Ведаеш, Зоська, ты толькі адна мяне зразумела!

— І ты мяне зразумеў!

— Але вось і твой ўжо дом. Вось хутка прыйшлі! Мне нічуць ня здоўжылася.

— І мне таксама. Ну, бывай здароў!

— Бывай! Але глядзі заўтра прыйдзі!

— Аб гэтым ты не бядуй!

— Бывай!

— Бывай!

Сьціснуўшы моцна рукі, яны разыйшліся. Міхась радасны, поўны надзеі, пайшоў назад у мястэчка, Зоська зайшла ў хату.

Тут ужо ўсе спалі. Яна ціха, як кошачка, дабралася да свайго лажка, разабралася і заснула, як камень.

II.

Дзень, гэты гарачы жніўнёвы дзень, пачынаў ўжо прабуджацца. Жаўранак даўно ўжо яго чакаў, пяючы сваю песьню недзе высока, высока ў нябесным прасторы. За ім пачалі падаваць галасы іншыя птушкі.

Зара разгаралася. Яе чырвань спатыкала мэлёдыя птушыных галасоў у полі, яе спатыкала працоўная вёска. Усё жыло, захоплівала на поўны рот, тую жыцьцёвую сілу, якую нясла раніца—крыніца ўсяго, што хоча жыць.

Марыля—маці Зосі—даўно ўжо ўстала і збудзіла мужыка, які зараз-жа паехаў на сенажаць; сама-ж падаіла каровы і выправіла на пашу. Яна ведала, што яе дачка позна прыйшла, што недзе там бадзялася на рэпэтыцыях, якія ніякай, па яе думцы, карысьці ня прыносяць і, хоць злавалася, аднак казала сабе: „Няхай пасьпіць, адпачне!“ Але калі ўжо сонца пачало заглядаць сваімі залатымі праменьмі ў хату і трэба было ісьці жаць, пачала будзіць Зоську.

— Уставай! Чуеш?—гукала яна,—„Напрацавалася жартачкі? Сонца ўжо ўзышло.

Зоська схапілася. Працёрла свае мілыя вочкі. На прыгожым твары ня было сьледу змораньня, ён так і сьвяціўся моладасьцю, жыцьцём.

— І што ты маеш з гэтых ціятраў? Чаго гэта, каб цябе запытацца, кожную ноч бадзяешся? Чорт цябе ведае?

— Ужо кожную ноч!—буркнула пад нос Зоська.

— Ну, ведама! Каб гэта ўзяў калі дзеркача ды высьвеньціў тваю дурную галавешку, ведала-б як хадзіць. Пытаюся цябе, што табе дасьць гэтая, як ты кажаш, рапатыцыя? Можа чаравікі купіць, сукенку набярэ!

— Не хачу я нічога, толькі адчапецеся?

— А, што ты голая будзеш хадзіць? Чакай! Падаткну табе я нос. Глядзі, каб ты ўжо ад гэтага дня кінула, бо іначай я табе галаву пахвашчу! Чуеш, ты, непаслушніца?

— Чую, чую!...

— Глядзі! — і сказаўшы гэта, маці выйшла.

„І што мне рабіць? Вось кожны дзень так рэжа, пілуе. Хоць плач! Але што гэтым паможаш? Не! Трэба з гэтым скончыць. Сягоньня скажу Міхасю, што больш не магу. Як заплацяць... і аж сама спалохалася таго, што падумала.

— Ну ідзі еш ды пойдзем жаць!

Цераз некалькі хвілін яны ўжо з сярпамі ішлі дарогаю да свайго жыта. Прыгожасьць прыроды, сьвежае паветра агарнула Зоську і яна забылася, пакінула свой пэсымізм. „Чаму-ж мне ня пець? Чаму-ж ня гудзець?“ вырвалася з грудзей, нясучы з сабой радасьць і задавальненьне.

III.

Хоць маці сьцерагла, але Зоська такі ўвечары вырвалася і пабегла. Сьпяшалася, бо ўжо надыходзіла ноч. Калі прыбегла на месца, то пабачыла, што спазьнілася крыху і яе ўсе чакалі.

— Чаму-ж гэта так позна? — пытаўся, вітаючыся, Міхась.

— Ат, ледзьве і так прыйшла!

— Што-ж такое?

— Пасьля раскажу!—і зараз падумала: „Што я зраблю? Трэба расказаць і пакончыць з гэтым. Што-ж, калі заплацяць, то“... і недакончыла.

Сорамна зрабілася, калі пабачыла твары з зусім іншымі думкамі.

Рэпэтыцыя прайшла надта добра. Усе былі вясёлыя і рагаталі на ўвесь рот. А поўначы пачалі разыходзіцца. Міхась ізноў праважаў Зоську. Цяпер, аднак, як ні хацеў яе развесяліць, нічога не памагло. Яна думала, як гэта расказаць сваю бяду, але так, каб было добра, каб не засароміць сябе.

— Чаго ты такая сумная?

— Ат, працуй, працуй і ўсё надарма!

— Якта на дарма? Што ты, Зоська, кажаш?

— Ну, якую карысьць я маю?

— Як? Ці цябе не здавальняе тое, што

